


# Наша Слова




*Госць рэдакцыі*
**НАСТАЎНІКІ...НЕ ЗДРАУНІКІ**
*Стар.3.*

**ПЕРААДОЛЕЎШЫЯ СТРАХ**
*Стар.4.*

Штотыднёвік
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 32 (296)

8 жніўня 1996 г.

Кошт -- 1000 рублёў

# ПОСТУП ТЫДНЯ



**У друку з'явіўся указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь** "Аб дзяржаўнай падтрымцы малога прадпрымальніцтва". Што ж, лепей позна, чым ніколі.

***Правесці "Круглы стол"*** *з удзелам палітычных партый, аб'яднанняў і прадстаўнікоў усіх галін улады Рэспублікі Беларусь — з такой ініцыятывай выступілі кіраўнікі сямі партый краіны, сярод іх БНФ і камуністы. На "круглым стале" плануецца разам з прэзідэнтам, прэм'ер-міністрам, старшынямі Вярхоўнага Савета і Канстытуцыйнага суда "выпрацаваць такія падыходы, якія б садзейнічалі ўстанаўленню ўзаемаразумення ў нашым грамадстве і гарантавалі б выкананне Канстытуцыі і законаў Рэспублікі Беларусь". Задума добрая, але ці адгукнуцца на яе ўсе, ад каго залежыць далейшы лёс нашай краіны...*

**У Беларусі жывуць** каля 200 тысяч чалавек нелегальных мігрантаў. Пераважная іх колькасць — выхадцы з краін Азіі.

***У прэс-цэнтры сталічнага "Дома прэсы"*** *прайшло першае пасяджэнне аргкамітэта па святкаванні Дня беларускага пісьменства і друку, які будзе адзначацца ў першую нядзелю верасня ў Навагрудку. Праграма будучага свята канчаткова яшчэ не зацверджана, але, паводле задумы, у ёй захаваецца шмат таго, што было ў ранейшых святкаваннях.*

**У мястэчку Гальшаны Ашмянскага раёна** прайшоў устаноўчы сход дабрачыннага фонду рэстаўрацыі Гальшанскага палаца, які належаў роду Сапегаў. Ініцыятарам стварэння фонду выступіў грамадскі цэнтр "Беларуская перспектыва". У кіраўніцтва арганізацыі абраны мясцовыя краязнаўцы, дзеячы беларускай культуры і навукоўцы з Менска.

***У мінулым навучальным годзе на Беларусі працавала 4808 школ,*** *у якіх вучылася больш за 1 мільён 538 тысяч вучняў. Паводле папярэдніх звестак, сёлета колькасць школьнікаў у краіне павінна павялічыцца. Да першага верасня адчыняцца 56 новых школ, але яны, відаць, не вырашаць ранейшых праблем — летась у адну змену займалася крыху больш за 70 працэнтаў школ, амаль 28 працэнтаў у дзве, а астатнія школы — нават у тры змены.*

**У Менску побач з Траецкім прадмесцем** адкрыты помнік воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане.

***Лідэры Беларускага народнага фронту*** *Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык папрасілі ў ЗША палітычнага прытулку.*

**З 1 жніўня адкрыта прамая чыгуначная сувязь** паміж Віцебскам і Мурманскам. Цягнік № 426/425 будзе курсіраваць раз на тыдзень, у чацвер, адпраўляючыся з Віцебска ў 11 гадзін.

***Да распаду СССР у краіны далёкага замежжа Беларусь адгружала*** *ўсяго 3 працэнты сваёй прадукцыі, летась жа гэты экспарт перавысіў 50 працэнтаў.*

**Віншуем!**

## Айцу Аляксандру Надсану — 70 гадоў.

8 жніўся спаўняецца 70 гадоў з дня нараджэння айца Аляксандра Надсана — чалавека, які амаль усё сваё жыццё захоўвае святло беларускае культуры на Захадзе. Айцец Аляксандр — беларускі святар, Апостальскі Візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа — абслугоўвае духоўныя патрэбы беларусаў на пяці кантынентах. Ён мае сусветную вядомасць як актыўны дзеяч беларускай культуры, даследнік, пісьменнік і перакладчык. Чалавек надзвычайнае эрудыцыі, ён узбагаціў нашае культуразнаўства сваімі працамі аб беларускіх старадруках, даследаваннямі і адкрыццямі ў галіне вывучэння спадчыны Кірылы Тураўскага і Францішка Скарыны, а таксама зрабіў унікальную працу па транслітэрацыі свяшчэнных тэкстаў і паданняў беларускіх татараў — Аль-Кітабаў. Акрамя таго, айцец Аляксандр з'яўляецца першым перакладчыкам грэцкіх літургічных тэкстаў на беларускую мову. Уся багатая літургічная традыцыя Візантыйскага Усходу, у якой глыбіня багаслоўскае думкі спалучылася з гармоніяй паэтычнага выражэння, дзякуючы яму стала даступнай для беларусаў.

Ужо 25 гадоў а.Аляксандр кіруе Беларускай бібліятэкай імя Ф.Скарыны ў Лондане. Ад часу свайго заснавання ў 1971 годзе гэтая бібліятэка з'яўляецца буйнейшым на Захадзе цэнтрам беларусазнаўства, які прыцягвае даследнікаў з усіх куткоў свету. (Дарэчы, сёлетняе святкаванне 25-х угодкаў бібліятэкі засталося незаўважаным на Беларусі).

Немагчыма пераацаніць працу а.Аляксандра ў справе стварэння і папаўнення бібліятэчных фондаў. Шмат гадоў ён займаўся зборам рэдкіх беларускіх выданняў, рукапісаў і прыватных архіваў, наладжваў кантакты з культурнымі дзеячамі і дзяржаўнымі кнігасховішчамі на Беларусі, арганізоўваў навуковыя канферэнцыі на базе Скарынаўскае бібліятэкі ў Лондане.

Ягоная навуковая дзейнасць не абмяжоўваецца Беларускай бібліятэкай: а.Аляксандр уваходзіць у Раду Англа-беларускага таварыства, асноўнай мэтай якога ёсць пашырэнне ведаў пра Беларусь у Вялікай Брытаніі. Ад 1965 года а.Надсан бярэ актыўны ўдзел у працы гэтага таварыства, чытаючы лекцыі з беларускай гісторыі і культуры для шырокага кола слухачоў. Ягоныя лекцыі друкаваліся ў англамоўным выданні таварыства.



Непадзельнай часткаю ўсяго жыцця а.Аляксандра ёсць ягоная душпастырская праца, і найперш — служэнне ў царкве святых апосталаў Пятра і Паўла, дзе ён штодня адпраўляе набажэнствы па-беларуску. Айцец Аляксандр — грэка-каталіцкі (уніяцкі) святар, але да яго ў царкву прыходзяць людзі розных канфесіяў, каб атрымаць духоўны спажытак.

Цяпер, калі кантакты з Беларуссю сталі актыўнымі, да а.Аляксандра ў Лондан прыязджае ўсё больш людзей з самымі рознымі патрэбамі: папрацаваць у бібліятэцы, проста пазнаёміцца з гэтым незвычайным чалавекам і акунуцца хоць ненадоўга ў атмасферу гасціннасці і зычлівасці, што пануе ў ягоным доме. Кола кантактаў а.Аляксандра няспынна пашыраецца.

Аднак а.Надсан не толькі прымае гасцей з усяго свету і найперш з Беларусі — ён і сам досыць часта наведвае Беларусь. Упершыню ён прыехаў у Менск у сакавіку 1990 года са сваім першым грузам лекаў для дзяцей, што пацярпелі ад чарнобыльскае аварыі. Гэта стала пачаткам вялікай праграмы дапамогі, у якую ўваходзіць дастаўка медыкаментаў у найбольш пацярпелыя раёны Беларусі і наладжванне летніх адпачынкаў для дзяцей з гэтых раёнаў у розных кутках Вялікай Брытаніі. Айцец Надсан стварыў і ўзначаліў Камітэт і Фонд дапамогі ахвярам радыяцыі ў Беларусі, неаднаразова выступаў з гэтай праблемай у брытанскім друку і на тэлебачанні.

Усё жыццё а.Аляксандра Надсана было і застаецца адданым служэннем Беларусі і беларускаму народу. Шчыра віншуем яго з 70-годдзем і зычым яму добрага здароўя і моцы ў ягонай высакароднай працы.

**Фота У.ПАНАДЫ.**



## Беларусь святкуе дзень Незалежнасці

Удзельнікі "Шэсця за незалежнасць" у сталіцы пачалі збірацца 27 ліпеня ў скверы імя Я.Купалы значна раней прызначанага нацыянальным аргкамітэтам часу. Апрача менчукоў, былі і дэлегацыі дэмакратычных арганізацый з іншых беларускіх гарадоў, у тым ліку шахцёры з Салігорска.

Аб 11 гадзіне святочная калона пачала рух у бок Палацу спорту — месца правядзення мітынгу ў гонар Дня Незалежнасці. Гарадскім уладам на гэты раз хапіла розуму не забараняць акцыю апазіцыйных сіл, хаця шлях для калоны быў пазначаны пакручасты — тры павароты па вузкіх вуліцах! Спецпадраздзяленні не праваквалі маніфестантаў, таму абышлося без эксцэсаў. Вельмі красамоўны адказ тым, хто абвінавачвае апазіцыю ў арганізацыі масавых беспарадкаў.

Калону ўзначалілі сябры аргкамітэту, вядомыя ў краіне палітыкі і грамадскія дзеячы: Генадзь Карпенка, Станіслаў Багданкевіч, Георгій Таразевіч, Юрый Хадыка, Мікалай Статкевіч, Аляксандр Дабравольскі, Аляксандр Бухвостаў, Генадзь Грушавы, Ніл Гілевіч. Лявон Баршчэўскі. Прадстаўнікоў розных партый і грамадскіх рухаў аб'яднала пагроза для існавання дэмакратыі і незалежнасці Беларусі, якая сёння зыходзіць ад выканаўчай улады і яе вышэйшага кіраўніка. Пра гэта гаварылі вышэйназваныя палітыкі і пад час святочнага мітынгу.

Па міліцэйскіх звестках у маніфестацыі ўзяло ўдзел каля 7 000 чалавек, на самай справе людзей было значна болей — да 30 тысяч. Як і пад час вясенніх акцый, многа было маладых людзей. Моладзь па-свойму выказвала свае адмоўныя пачуцці да сённяшняга рэжыму. Апроч выгуквання хлёсткіх лозунгаў, спяваліся беларускія патрыятычныя песні, а маладыя салігорскія шахцёры ў рабочых касках неслі стылізаваную труну з надпісам "Дыктатура".

Цікава было паназіраць за рэакцыяй людзей, якія сустракаліся на шляху калоны, многія з іх далучаліся да шэсця ці горача адабралі нават самыя радыкальныя лозунгі дэманстрантаў. Панавала, тым не меней, атмасфера зычлівасці, чуліся жарты і вольны смех. І гэта нягледзячы на вельмі трывожную сацыяльную сітуацыю.

Наша краіна апынулася на краю бездані, за якім вельмі выразна бачны калапс эканомікі, сацыяльны выбух мас і як вынік грамадзянская вайна і страта незалежнасці,— падкрэслівалі выступоўцы на мітынгу. У такой сітуацыі Беларусь апынулася дзякуючы бязглуздаму чаканню нейкіх звышцесных "воссоединений". Краіна апынулася ў жахлівым эканамічным крызісе, людзям месяцамі не выплочваюцца зарплаты, беспакарана парушаюцца законы краіны і Канстытуцыя. Але замест таго, каб неадкладна праводзіць рынкавыя рэформы для аздараўлення эканомікі, умацоўваць законнасць і дэмакратыю, Прэзідэнт заняўся пошукам ворагаў і папраннем элементарных свабод і правоў чалавека,— адзначалі прамоўцы.— Цяпер ініцыіруецца рэферэндум, каб пашырыць і без таго неабмежаваныя паўнамоцтвы выканаўчай улады, што пагражае разбурэннем прававой дзяржавы.

Гэту небяспеку для дэмакратыі і незалежнасці Беларусі зразумелі буйнейшыя палітычныя партыі краіны, кіраўніцтва якіх выступіла са зваротам да грамадзянаў Беларусі, сказаў Юрый Хадыка, вось БНФ з партыяй камуністаў з'яўляюцца палітычнымі супернікамі, але тут яны змаглі паразумецца, бо добра ўяўляюць, чым можа скончыцца замах выканаўчай улады на Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны Суд. І калі зараз не аб'яднаць свае сілы, Беларусь чакае дыктатура,— сказаў у сваім выступе намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка. Паколькі палітычных саюзнікаў у Беларусі ў выканаўчай улады амаль не засталося, падключаюцца расійскія камуністы, імі робяцца абсурдныя заявы пра змову ЦРУ з беларускімі нацыяналістамі супраць "правадыра славянскіх народаў",— казаў Генадзь Карпенка.



Досыць нетрадыцыйна звярнуўся да прысутных былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка: "Хто вінаваты ў парушэнні Канстытуцыі?" — пытаў ён.— "Хто абяцаў запусціць заводы?", "Хто разбурае Беларусь?" і г.д. Народ на плошчы дружным хорам называў прозвішча аднаго вядомага палітыка. Святочныя мітынгі і шэсці 27 ліпеня былі наладжаны ў Магілёве, Гародні, Наваполацку і іншых гарадах.

**Ян БАРЫСОЎСКІ.**

З рэдакцыйнай пошты

# Падняць культуру з каленяў!

Неяк мяне ўразілі дадзеныя аднаго сацыялагічнага апытання, дзе 80 працэнтаў апытаных больш за ўсё хваляваla нястача прадуктаў харчавання і толькі 20 працэнтаў — нізкая культура насельніцтва. Вядома, добра было б мець і прадукты, і культуру разам, але ці не дарма пакідаем мы праблемы культуры на потым? Культ чысціні, ладу, духоўнасці не прывіўся нам былымі ўладамі, не прывіваецца і цяперашнімі. Духоўнасці, маральнасці, культуры паводзін, чалавечых зносін пакуль мала вучаць у сям'і, у школе.

У свой час у школе мы, настаўнікі, даволі часта пісалі характарыстыкі вучняў. Штосьці не памятаю, каб у іх было што-небудзь пра культуру навучэнцаў. Цяпер характарыстыкі наогул не патрабуюць пры паступленні ў навучальныя ўстановы. А дарэмна. Хаму, нягодніку супрацьпаказаны педагогіка, медыцына, гандаль, побытавыя паслугі, транспарт, дзе непазбежныя сутыкненні з людзьмі.

Цяпер цяжка жыць. Дарагавізна, бруд на вуліцах, а шмат у каго на языку, у душы. Усё гэта раздражняе, зніжаючы патрабаванні да культуры паводзін. Але ж мы — людзі і заўсёды павінны помніць пра гэта. Калі па тэлевізары глядзіш, да прыкладу, тыя ж пасяджэнні нашага Вярхоўнага Савета ці расійскай Дзяржаўнай думы, становіцца прыкра — няўжо гэта тыя самыя народныя выбраннікі, якім даверылі данесці праўду аб жыцці, разабрацца ў праблемах, бедах, знайсці шляхі выхаду з крызісу? Крык, раздражненне, нават мацюкі. Дэпутатаў вучыць культуры, напэўна, пазнавата. Хаця ёсць жа камісіі па дэпутацкай этыцы, праводзіцца, відаць, заняткі па "культурным лікбезе". Тым не меней, лепш заняцца выхаваннем як мага раней — у сям'і, садку, школе. Растлумачыць, паказаць, як трэба паводзіць сябе з бацькамі, старэйшымі, сябрамі, за сталом, сярод іншых людзей. Як падысці да незнаёмага чалавека. Як павіншаваць сябра ці выказаць спачуванне. Ды ці мала ў жыцці выпадкаў!

Нехта з чытачоў гэтай нататкі падумае: "Зноў гаварыльня, трэба справу рабіць!" Згодна. Але, мяркую, з праблем, якія апанавалі нас, трэба вылучыць адну, першарадную — падняць культуру ў шырокім сэнсе з каленяў. Інакш захлынемся ў некультурнасці, крывадушнасці, амаральнасці.

**Марыя ЕЛІЗАРАВА,**
**настаўніца.**
г.Дзяржынск.

У газетах

# Новая прэса ў новых умовах

Самвыдат... Гэтае слова з лексікона "светлага" камуністычнага мінулага, здаецца, знікла назаўсёды пасля таго, як працэс перабудовы пакончыў з цэнзурай. Колішнія зоркі самвыдата ў Беларусі — газеты "Кантроль", "Беларускі голас", "Навіны БНФ", "Свабода" і іншыя — або пачалі выдавацца легальна, абвяшчаючы нават падпіску па ўсёй краіне, або саступілі месца іншым.

І ўсё ж: сёння стракаты спектр беларускай прэсы аказаўся яўна недастатковым, каб ахапіць вольным словам усе слаі грамадства ды адлюстраваць усю вастрыню падзеяў. Да таго ж, зноў праявіліся сумныя рэцыдывы здушэння волі слова: белыя плямы ў газетных старонках, нявыхады чарговых нумароў перыёдыкі, праблемы з друкарнямі ў выданняў-непаслушэнцаў...

Відавочныя новыя ўмовы жыцця для прэсы. А раз новае — гэта добра забытае старое, дык і выплыў стары рэцыдыў самвыдата ў новым абліччы.

Сярод найбольш прыкметных самвыдатаўскіх навінак апошняга часу стала беларускамоўная газета "Моладзь змагаецца" (на здымку вы бачыце ейны чэрвеньскі нумар). Змест выдання яскрава пераконвае: ёсць шмат тэмаў і пытанняў, якія проста не могуць быць асветлены ні ў афіцыйным друку, ні нават у апазіцыйным. Але нелегальнасць нярэдка правакуе вольных выдаўцоў да страты адчування меры, да фрывольнасці, якая часам выходзіць за межы прыстойнасці.

Што да газеты "Моладзь змагаецца", то на першай старонцы значную частку месца аддаецца ілюстраванаму здымкамі рэпартажу "Міліцэйскія дубінкі не разбіраюць партыйнай прыналежнасці". Тут удзельнік падзеяў распавядае пра вясновыя акцыі грамадзянскага непадпарадкавання, што разгарнуліся трывалым ланцугом па Беларусі. Каб чытач мог параўнаць стыль выкладання, возьмем адзін факт — збіццё мірных грамадзян па прыкмеце беларускамоўнасці, — пра які "Наша слова" таксама пісала ў № 15 (10.IV.1996). Аўтар "МЗ" № 1 (чэрвень, 1996) апісвае гэта з куды большай натуральнасцю:

"Са словамі "белорусское гавно, на землю!" ОМОНавец секануў мне дубінкай па патыліцы. Я зваліўся на дно аўтобуса. Заляцеў мой таварыш, каторага таксама сталі збіваць. Потым у аўтобус заваліў натоўп ОМОНаўцаў чалавек з 15. Ім, відаць, не дасталося ахвяры, і яны сталі вымяшчаць "свой праведный гнев" на нас".

Прызнацца, каб не грашыць задужа шматкроп'ямі, хаваючы чужамоўныя непрыстойныя выразы ў беларускім тэксце, я адмыслова выбраў самую сціплую ў гэтым сэнсе цытату. Але, як сам удзельнік падзеі, якога таксама міліцыянты збівалі звязанага, а потым суд Цэнтральнага раёна г.Менска прымусіў яшчэ і заплаціць за гэтую "паслугу" 200 000 рублёў, магу засведчыць, што аўтар з "МЗ" хоць і парушае пэўныя нормы прыстойнасці, але зусім не грашыць супраць праўды, як гэта робяць праваахоўныя органы, у якіх нават глуханямы можа аблаяць прэзідэнта, а інвалід — пабіць узброенага да зубоў амапаўца.

Побач з гэтым рэпартажам — палітычная карыкатура, зварот да ахвяраў палітычных рэпрэсій.,

Сярод іншых матэрыялаў варта адзначыць трапныя, поўныя своеасаблівага студэнцкага гумару карацелькі навінаў з рубрыкі "Вясновы калаж", вясёлы палітычны комікс на тэмы актуальнага жыцця (пра спробу зрабіць ССР з Беларусі і Расіі) і нават рэклама. А рэкламуюцца тут рэчы неардынарныя — гэта і конкурс на лепшы насценны надпіс з дыхтоўнымі прызамі, і "Molotoff coctail". З цікавасцю, бадай, сустрэнуць чытачы і парады "старога ваўка" пад рубрыкай "Барацьба працягваецца", які дзеліцца сваім жыццёвым вопытам, як не паслізнуцца на мокрай дарозе.

У выданні адчуваецца добрая паліграфічная культура, пісьменна выкарыстоўваецца дарэформенная беларуская мова, словам, "Моладзь змагаецца" можа перарасці ў неардынарную газету — канкурэнта "Свабоды"! Адрас для кантактаў указваецца, па зразумелых прычынах, замежны:

252146, Киів, п/с 331/7. Што ж, новыя ўмовы — новы спосаб жыцця, у тым ліку для прэсы.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

# Андрэй РАМАШЭЎСКІ: Я не спыню сваю дзейнасць



**— Андрэй, як ты ацэньваеш вынікі судовага працэсу?**

— Я больш чым упэўнены, што суд вынес прыгавор пад націскам прэзідэнцкай улады. Пад час працэсу нават пракурор запрасіў меней, чым даў суд, і гэта гаворыць ужо шмат аб чым. Мы будзем абскарджваць гэтае рашэнне.

**— Што ты можаш сказаць адносна дзеянняў пракурора?**

— Раней з ім я не быў знаёмы і яго дзеянні пад час працэсу мне глыбока сімпатычныя. Прыемна ўразіла яго валоданне беларускай мовай, і яго сумленныя паводзіны на судзе.

**— Адной з мэтаў суда было запалохаць цябе як маладзёжнага лідэра, ці ўдасца ўладзе запалохаць маладзёжны рух наогул?**

— Я сваю дзейнасць згортваць не збіраюся. Можа буду дзейнічаць больш асцярожна, але запалохаць мяне немагчыма. Можа прыйдзецца сыходзіць у падполле ці з'ехаць на год за мяжу.

**— А куды ты збіраешся ехаць?**

— У Камбоджу, мне знайшлі там месца дзе жыць і працаваць, ды даўно хацелася пабываць у тропіках, тым больш, што гэтае лета я правёў у турме.

**— Чаго табе не хапала ў турме?**

— Не хапала свежых газет, не хапала проста свабоды.

**— Якімі былі адносіны да цябе адміністрацыі турмы і вязняў?**

— Нармальнымі. Я заўсёды нармальна будую адносіны з абсалютна рознымі людзьмі. Ахова ставілася да мяне, як і да ўсіх астатніх. Добра адносіўся персанал медчасці, за выключэннем яе кіраўніка, якая заявіла, што я павінен спыніць галадоўку, бо гэта парушэнне рэжыму і за гэта мяне могуць адправіць у карцэр.

**— Ці сустракаўся ты там з украінцамі?**

— Не, але ўдалося наладзіць з імі сувязь. Па турме пошта ходзіць вельмі добра, і з любой камерай можна звязацца ці нават перадаць груз. Я наладзіў з імі перапіску і за гэта мяне перавялі ў камеру, якая не мае сувязі, і мае кантакты на гэтым скончыліся.

**Распытваў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**
**Фота У. ПАНАДЫ**

Уражанні

# З "Пегасам" спакайней?

У студзені 1992 года Слуцкі гарсавет прыняў рашэнне, па якім гораду вяртаўся яго старадаўні герб "Пагоня". Не тая, агульнанацыянальная, занатаваная ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, а менавіта "случчанская", дараваная гораду магдэбургскім правам яшчэ ў сярэдзіне XVII стагоддзя, аб чым сведчаць архівы Менска, Варшавы, Санкт-Пецярбурга.

Дэпутаты тагачаснага склікання кіраваліся пры прыняцці свайго рашэння і навуковымі працамі вядомага беларускага вучонага, прафесара Анатоля Грыцкевіча, у прыватнасці, яго кнігай "Горад на Случы", дзе ён спасылаецца ў сваіх трактоўках паходжання герба на тыя архівы.

Пасля сумнавядомага рэферэндуму па дзяржаўных сімвалах, калі нацыянальны герб "Пагоня" быў адменены, у Слуцку не спяшаліся са скасаваннем свайго гарадскога, які, дарэчы, называўся, па звестках А.Грыцкевіча, "Пагоньчык", таму як меў пэўныя асаблівасці ў расфабоўцы і канфігурацыі агульнага фону.

На скрыжаванні вуліц пры ўездзе ў горад з боку Менска на высока ўзнятым шчыце "Пагоньчык" сустракаў гасцей, унушаў давер да гарадскіх уладаў...

Нібы прадбачачы пагрозу свайму "дзецішчу", А.Грыцкевіч у другім нумары "Беларускага гістарычнага часопіса" за гэты год выступіў з артыкулам "Яшчэ раз да пытання аб старадаўнім гарадскім гербе Слуцка". У ім аўтар аргументавана і доказна, са спасылкай на архіўныя звесткі, развенчвае сцвярджэнні навукоўца А.Цітова, які вылучыў версію аб тым, быццам гербам горада быў "Пегас" — крылаты конь, хоць, на думку аўтара артыкула, дакументаў пра яго ўвядзенне як герба нідзе няма. А яшчэ, у канцы артыкула, спасылаецца на вынікаючае з яго, Грыцкевіча аргументаў рашэнне Слуцкага гарсавета ад 9 студзеня 1992 года. Маўляў, пытанне закрыта і версія пра "Пегаса" адпадае.

Дэпутаты гарсавета новага склікання гэтага артыкула, вядома, не чыталі, таму як адзіны нумар часопіса знаходзіцца ў гарадской бібліятэцы, а проста на адной з апошніх сесій без лішніх дыскусій і спрэчак, па знаёмай завядзёнцы застойных часоў прынялі рашэнне, якім адмянілі папярэдняе, чатырохгадовай даўнасці, па "Пагоні" і зацвердзілі гербам горада "Пегаса". З ім, напэўна, у сённяшні час, калі вядзецца ганенне на ўсё беларускае, нацыянальнае, спакайней жыць — не стануць дапякаць "зверху".

Застаецца толькі спадзявацца, што век крылатага каня, выява якога ў сярэднявечча была на пячатках князя Багуслава Радзівіла і насіла адбітак чыста "фамільны", будзе не доўгім. Хочацца верыць, што і паважаны прафесар А.Грыцкевіч не спыніцца перад наступам сілаў, якім хочацца вытравіць са свядомасці случчан праўду аб іх гістарычнай спадчыне.

**М.ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

# "Не можам пагадзіцца з Вамі..."

У розны час Таварыствам беларускай мовы рабіліся пісьмовыя запыты прадстаўнікам улады розных узроўняў, якія тычыліся стану заняпаду беларускамоўнага школьніцтва.

Прапануем увазе чытачоў надрукаваныя з нязначнымі скарачэннямі адказы, скіраваныя ў Таварыства міністрам адукацыі і навукі В.Стражавым (№ 21-06/421) і старшынём сталічнага гарвыканкама У.Ярмошыным (№ 3-769).

"Міністэрства адукацыі і навукі прааналізавала Ваш ліст на імя прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М.Чыгіра і па ўзнятых у ім пытаннях паведамляе наступнае.

Ажыццяўляючы моўную палітыку ў навучальна-выхаваўчых установах, Міністэрства адукацыі і навукі кіруецца заканадаўчымі актамі па гэтым пытанні, прымае неабходныя меры па забеспячэнні рэальнага, гарантаванага Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь права выбару мовы навучання. Таму, дасылаючы на пачатку гэтага навучальнага года рэкамендацыі аб вырашэнні пытання мовы ў школах, Міністэрства адукацыі і навукі менавіта і акцэнтавала ўвагу на тым, што пры камплектаванні першых класаў павінна быць задаволена права выбару.

Разумеючы непажаданасць моўнай ломкі для вучняў (пераход з адной мовы навучання на другую), рэкамендавалася ў 2-4-х класах працягваць навучанне на той мове, на якой ажыццяўлялася ў папярэднія гады.

Органы кіравання адукацыяй г.Менска, адміністрацыя школ прыклалі намаганні, каб у школах горада прыкметна не скарацілася колькасць вучняў 2, 3, 4-х класаў, якія навучаюцца на беларускай мове."

Далей у лісце прыводзіцца статыстыка, якую мы, каб спрасціць, падаём у выглядзе табліцы

| класы | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| працэнт беларускамоўных вучняў сёлета | 34,3 | 45 | 42,8 | 16,5 | 11,8 |
| працэнт беларускамоўных вучняў летась | 58,7 | 49,1 | 19,8 | 12,4 | 6,5 |

Але найбольшую ўвагу ў гэтым лісце прыцягваюць наступныя фразы: "**амаль** у кожным мікрараёне горада дзейнічаюць беларускамоўныя школы або беларускамоўныя класы ў рускамоўных школах." "Міністэрства адукацыі і навукі **вырашае пытанне** аб задавальненні права кожнага грамадзяніна рэспублікі на атрыманне... адукацыі на беларускай мове."

Пад гэтым сведчаннем адсутнасці ў беларусаў магчымасці рэалізацыі сваіх грамадзянскіх правоў стаіць подпіс міністра адукацыі і навукі В.Стражава.

Не менш цікавы і ліст, падпісаны мэрам сталіцы Беларусі У.Ярмошыным:

"Менскі выканкам інфармуе, што Ваш ліст аб захаванні сеткі школ з беларускай мовай навучання ў г.Менску ўважліва разгледжаны, прыведзеныя факты прааналізаваны.

Не можам пагадзіцца з Вамі ў тым, што сістэма навучання на беларускай мове ў горадзе разбурана."

Вось аргументы сп. Ярмошына, якімі могуць карыстацца і тыя з нашых чытачоў, якія маюць клопаты з навучаннем дзяцей па-беларуску:

"Усе беларускія класы забяспечаны неабходнымі падручнікамі, вучэбна-метадычнымі дапаможнікамі як у бягучым, так і на наступны навучальны год.

У школах з беларускай мовай навучання захоўваецца адзіны моўны рэжым беларускай школы.

Беларускія класы захоўваюцца нават тады, калі напаўняльнасць іх значна ніжэй за нарматыўную.

На наступны навучальны год плануецца захаваць існуючую сетку школ з беларускай мовай навучання, беларускіх класаў, каб забяспечыць права бацькоў на выбар мовы навучання іх дзяцей."

На жаль, сведчанні, якія апошнім часам атрымалі і выкарысталі ў публікацыях супрацоўнікі "Нашага слова", істотна рознацца са словамі сп. Ярмошына. З гэтай прычыны мы падаём узяты з таго ж ліста спіс навучальных установаў, якія, паводле словаў мэра сталіцы, захавалі статус беларускіх, адкрылі ўсе першыя класы з беларускай мовай навучання, не скарацілі колькасці вучняў у 2-9-х класах: Заводскі раён — СШ № 68, 82, 173, Ленінскі раён — СШ № 240, 102, 164, Кастрычніцкі раён — СШ № 1, 11, 89, 110, Маскоўскі раён — СШ № 60, 160, 192, Партызанскі раён — СШ № 137, 190, Цэнтральны раён — СШ № 21, 37. Акрамя іх, гімназіі № 93, 111, 198, 214 ды школы-ліцэі № 26, 165.

Такім чынам, чытачы, якія заўважаць разыходжанні паміж гэтым спісам і рэчаіснасцю, будуць ведаць, каму выказаць свае прэтэнзіі. Але ці захаваецца нават гэтая абмежаваная колькасць беларускіх школ да наступнага навучальнага года?

**Падрыхтаваў У.П.**

Госць рэдакцыі

# Настаўнікі не жадаюць здраджваць беларускаму народу



Знаходзячыся ў Менску на курсах павышэння кваліфікацыі, да нас у рэдакцыю завітаў настаўнік гісторыі, малады паэт са Старых Дарог Віталь Юрэвіч. Ён папрасіў парады — як наладзіць у іх горадзе суполку Таварыства беларускай мовы. Разгаварыліся. І быў уключаны дыктафон.

**— Спадар Віталь, раскажыце, калі ласка, пра сябе.**

— Мой жыццёвы шлях пакуль не вялікі. Нарадзіўся ў Старых Дарогах. Скончыў Магілёўскі дзяржаўны педінстытут імя Аркадзя Куляшова, і вось ужо пяць гадоў працую настаўнікам гісторыі ў Старадарожскай школе № 2. З'яўляюся сябрам БНФ "Адраджэнне". Пішу вершы. Адзін з іх, "Наша мова", быў надрукаваны ў "Нашым слове" (16 траўня). Спрабую друкавацца ў нашай раённай газеце.

**— У якіх класах вы выкладаеце гісторыю?**

— Ва ўсіх, ад пятага да адзінаццатага.

**— Якое ў вашай, іншых школах становішча з падручнікамі? Вось жа прайшла ў друку інфармацыя, што падручнікі 1992-95 гадоў школьныя бібліятэкі адпраўляюць на макулатуру, знішчаючы нават добрыя, некарыстаныя кніжкі — "Буквар" Анатоля Клышкі, "Беларуская мова" для 3 класа і "Гісторыя Беларусі" для 8-9 класаў выдання 1992-1993 гадоў. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Стаўлюся вельмі адмоўна. Праўда, "Настаўніцкая газета" давала на гэта адказ, што, маўляў, нічога такога не робіцца. Але выкладчыкі гісторыі хвалююцца — што будзе з пачаткам навучальнага года? Мы не разумеем таго, што нейкая камісія падганяе гісторыю пад пэўную ідэалогію, пад пэўную палітыку, пад пэўныя знешнеэканамічныя прыярытэты. Ёсць жа рэальная гісторыя і яе трэба ведаць.

**— Як вы і вашы сябры прыйшлі да думкі стварыць у Старых Дарогах суполку Таварыства беларускай мовы?**

— Пакуль не вялася антыбеларуская кампанія на дзяржаўным узроўні, асаблівай патрэбы ў гэтай арганізацыі ў нас не было. Усе настаўнікі спакойна працавалі, вялі ўрокі на беларускай мове, ведаючы, што прыняты закон аб мовах, паводле якога да 2000-га года ўсе арганізацыі і ўстановы павінны перайсці на беларускую мову. А пасля таго, як адбыўся сумнавядомы рэферэндум і антыбеларускія сілы пачалі адкрыты наступ на ўсё беларускае, мы зразумелі, што толькі арганізавана працуючы, можна спыніць далейшую русіфікацыю нашага насельніцтва, у першую чаргу дзяцей і падлеткаў, тым самым захаваць будучыню народа. Трэба ж адстойваць беларускасць на Беларусі, інакш адбудзецца разбурэнне і нацыі, і дзяржавы.

**— Так што само жыццё прымусіла вас стаць на абарону роднай мовы?**

— Само жыццё... Калі б беларуская мова, паўтару, была ў пашане, хаця б як у першыя гады нашай незалежнасці, калі б не было гэтага ганебнага рэферэндуму, пытанне аб выжыванні беларушчыны сёння не стаяла б.

**— Спадар Віталь, а хто вашы сябры, аднадумцы?**

Яны ёсць у кожнай з нашых чатырох школ, пераважна настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, гісторыі. Трэба адзначыць, што ў нас падабраліся нацыянальна свядомыя гісторыкі. Вось, напрыклад, адзін з іх — Зуйкевіч Вячаслаў Дзмітрыевіч. Я ўпэўнены, што усе дырэктары школ, калі паўстане пытанне аб пераводзе школ на расійскую мову, скажуць сваё слова ў абарону беларускасці. Тут я назваў бы дырэктара школы № 2 Сташэўскага Уладзіміра Францавіча, таксама Сакава Валерыя Адамавіча.

**— Скажыце, калі ласка, на што ў першую чаргу вы скіруеце дзейнасць суполкі, калі яна створыцца?**

— Сваю дзейнасць Таварыства павінна накіроўваць найперш на моладзь. Работы наперадзе шмат. Будзем праводзіць лекцыі, раскрываць гісторыю нашага раёна. Узмоцнім краязнаўчую работу. Я сам, ды і мае сябры збіраем матэрыялы па гісторыі раёна. У суполцы будзем дзяліцца вопытам. Будзем праводзіць класныя гадзіны, удзяляючы ўвагу менавіта беларускай мове, гісторыі, краязнаўству. Галоўнае — сабрацца, арганізавацца, справу хопіць.

**— Спадар Віталь, якая сёння ў раёне, у горадзе сацыяльна-палітычная сітуацыя, якія настроі?**

— Трэба адзначыць, што калі ў вялікіх гарадах адбываецца паўзучая контррэвалюцыя, хутка пераводзяць на расійскамоўнае навучанне ў школах, дык да нас, можа, дзякуючы аддаленасці ад цэнтра, гэтыя імпульсы даходзяць пазней. Але не варта спадзявацца на тое, што яны зусім не дойдуць. І калі гэтая ідэалагічная антыбеларуская машына не будзе спынена, дык, мабыць, з наступнага года пачнуць адбывацца тыя ж самыя працэсы, якія адбываюцца сёння ў Менску, Магілёве ці Салігорску. Але пачынаць змаганне перш трэба тут, у Менску. Калі мы прымусім дзяржаўныя органы паважаць беларускую мову, беларускую культуру, не будзе ніякіх пытанняў.

**— Як у вашым горадзе бацькі ставяцца да мовы навучання дзяцей?**

— Сёлета пакуль яшчэ няма вялікай колькасці бацькоў, якія хацелі б перавесці дзяцей на расійскамоўнае навучанне. Але калі і надалей будзе праводзіцца двухсэнсоўная, "двухмоўная" дзяржаўная палітыка, бацькі ўбачаць бесперспектыўнасць беларускамоўнага навучання. Бо калі пры паступленні ў ВНУ трэба будзе здаваць уступны экзамен не па беларускай мове і літаратуры, а замест яе ўвядуць, скажам, сусветную, бацькі вымушаны будуць прыстасоўвацца да гэтага.

**— Спадар Віталь, краязнаўства, якім вы захапляецеся, наколькі дапамагае вам як настаўніку гісторыі?**

— Вядома, дапамагае. Звярніце ўвагу, чаму многія настаўнікі гісторыі стаяць на пазіцыях нацыянальных. Таму што, ведаючы гісторыю сваёй Бацькаўшчыны, краю, чалавек лепш за іншых разумее каштоўнасць нацыянальнай ідэі. Той, хто блізка пазнаёміцца з этнаграфіяй нашага краю, зразумее, што спалучэнне белага і чырвонага колераў у адзенні — гэта старадаўняя народная традыцыя, гэта беларускі талісман, абарона ад злога. Таксама калі вывучыць тыя ж паданні, прыказкі, прымаўкі, паслухаць, як людзі размаўляюць між сабой, яшчэ болей раскрыецца прыгажосць беларускай мовы і зноў жа — яе ахоўныя якасці.

**— А як вы мяркуеце скарыстаць сабраныя матэрыялы па краязнаўству, па этнаграфіі?**

— Па-першае, хацелася б адкрыць краязнаўчы музей альбо хоць нейкі музейны куток у нашым Цэнтры дзіцячай творчасці. Ці, напрыклад, стварыць музей на базе Другой школы, дзе я працую. Але няма памяшкання. Шмат матэрыялаў сабрана, якія можна было б ужо публікаваць, скажам, у раённай газеце. Але, на жаль, сувязі ў нас з рэдакцыяй вельмі нестабільныя. І не па нашай віне. "Раёнка" апошнім часам зрабілася вельмі ідэалагізаванай, у рэдакцыі нават у матэрыялах краязнаўчага характару бачаць праявы нацыяналізму і не пускаюць у друк.

**— Вы прыгадалі гарадскі Цэнтр дзіцячай творчасці. Калі ласка, раскажыце падрабязней, што яны там твораць, дзеці?**

— Гэта ўстанова, якая падпарадкоўваецца раённаму аддзелу адукацыі. Працуюць там, трэба сказаць, вельмі энергічныя, адданыя гэтай справе людзі. Узначальвае Цэнтр дзіцячай творчасці Шайдука Алена Уладзіміраўна, гурток разьбяроў па дрэве вядзе вядомы майстар Ігар Іванавіч Лізура, наша славутасць. Дарэчы, яго выставы пабывалі ў многіх краінах. Дзейнічаюць у Цэнтры шмат іншых гурткоў прыкладнога характару. А я, напрыклад, вяду там гурток "Спадчына", у якім удзельнічаюць вучні і з школы № 2. З гуртоўцамі праводжу розныя экскурсіі ў навакольныя вёскі. Там сустракаемся з ветэранамі, старажыламі і наогул цікавымі людзьмі. Трэба адзначыць, што дзецям такія экскурсіі вельмі падабаюцца. Так яны пазнаюць жыццё і пранікаюцца любоўю да роднага краю.

**— Вернемся да галоўнай, як мне здаецца, школьнай праблемы — праблемы падручнікаў. Надыходзіць жа новы навучальны год, і калі настаўнікам гісторыі начальства скажа — тое нельга і тое нельга казаць вучням,— як вы збіраецеся сябе паводзіць?**

— Хочацца верыць, што да нас у глыбінку гэтыя забароны яшчэ не дойдуць. А калі дойдуць, дык, мабыць, давядзецца пакідаць работу. Вельмі не хочацца казаць вучням няпраўду, альбо няпоўную праўду, гэта значыць, ашукваць іх. Гэта ж злачынства. Нам жа, настаўнікам, трэба за дзяцей адказваць. Асноўная мэта ў настаўніка — несці веды і выхоўваць у дзяцей патрыятызм, выхоўваць культурных, працалюбівых, дастойных грамадзян нашай Бацькаўшчыны. Калі ж нам усё-такі забароняць сумленна працаваць, выконваць свой грамадзянскі і прафесійны абавязак, я асабіста пакіну працу. Ды, мяркую, і многія мае калегі. Але хто ж тады і як будзе вучыць дзяцей грамаце і грамадзянскай годнасці?

**— Значыць, што, Віталь Анатольевіч?**

— Будзем змагацца!

**— Плёну вам на ніве Асветы і на ніве Адраджэння Бацькаўшчыны!**

**Распытваў Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

Культурнае жыццё

# Дай чыноўніку дудку

***Чацвёрты ўжо раз у Магілёве адбыўся міжнародны фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". На працягу чатырох дзён магілёўцы і госці горада адчувалі атмасферу ўнутранага ачышчэння і дабрыні.***

Шмат спатрэбілася часу, каб энтузіястам зліку каталіцкіх святароў і інтэлігенцыі даказаць, што ідэя фестывалю — не нейкая там каталіцкая экспансія, не палітычныя хітрыкі Ватыкану, а ініцыятыва, накіраваная на аб'яднанне вакол духоўнай музыкі беларускіх грамадзянаў незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання. І вось упершыню ў аргкамітэт Міжнароднага фестывалю ўвайшлі магілёўскія чыноўнікі, а яго ўзначаліў намеснік старшыні гарвыканкама Уладзімір Цумараў. Актыўны ўдзел у свяце духоўнасці і мастацтва прымалі і праваслаўныя парафіяльныя калектывы, а на яго адкрыцці і закрыцці прысутнічаў епіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі Максім.

Па традыцыі журы ўзначаліў прафесар Віктар Роўда, а фестываль вяла непараўнальная Зінаіда Бандарэнка. Па традыцыі было запалена вогнішча сяброўства. Шматлікія гледачы з задавальненнем слухалі выступленні шматлікіх хароў і выканаўцаў на адкрытых пляцоўках і на сцэнах палацаў горада. І сапраўды, здавалася, што Бог у гэты час раскінуў над Беларуссю "праменне свае хвалы".

Але ж пераход ініцыятывы ад энтузіястаў да гарадскіх уладаў у пэўным сэнсе адбіўся да духу фестываля і канцэпцыі фарміравання яго праграмы. Моладзь з нецярпеннем чакала акцыі "Крок насустрач": музыканты рока насустрач фестывалю "Магутны Божа", на правядзенне якой Фонд Сораса выдзеліў неабходную суму сродкаў. Але акцыя так і не адбылася, бо аргкамітэт на чале з намеснікам старшыні гарвыканкама ў апошнюю хвіліну палічыў, што рок-музыка не сумяшчальная з духоўнымі спевамі.

У выніку гурты "Уліс" і "Новае неба" вымушаны былі вярнуцца дахаты, а моладзь — шукаць нейкія іншыя формы бавіць вольны час. Ад музыкантаў нават патрабавалі ўзгадніць немаведама з кім тэксты песняў, а іх паводзіны на сцэне назвалі "непристойными", заявіўшы, што яны не дараслі да ўдзелу ў гэтым фестывалі. Музыкантам недвухсэнсоўна нагадалі, што ўлады не жадаюць, каб "гэты фестываль пераўтварыўся ў шоў".

Што мелі на ўвазе члены аргкамітэта — цяжка сказаць, але іміджу фестываля быў нанесены істотны ўрон. Сп.Анціпенка, каардынатар культурных праграм Беларускага аддзялення Фонда Сораса, выказаў сваё незадавальненне: ён мусіў заявіць, што калі людзі, якія маюць дачыненне да забароны акцыі, будуць у аргкамітэце, то Фонд не выдзеліць сродкаў на наступны — V фестываль.

На правядзенне фэсту негатыўна паўплывала сістэматычнае парушэнне правоў чалавека ў нашай краіне. Таму IV фестываль цяжка назваць міжнародным. На гэты раз, спаслаўшыся на палітычную нестабільнасць і складаную міжнародную сітуацыю ў нашай краіне, не прыехалі немцы, палякі, італьянцы. Таму, каб не Галандыя, свята можна было б лічыць фестывалем краін СНД.

Але тыя ўдзельнікі, якія прыехалі (а іх было каля 600), зрабілі ўсё магчымае, каб апраўдаць узровень фестываля і яго назву. У адзіным парыве гледачоў кранальі сваімі спевамі каталіцкія, праваслаўныя, пратэстанцкія калектывы. 4 дні праляцелі як адно імгненне. І вось нарэшце — фінал. На гэты раз сімпатыі журы заваяваў муніцыпальны міні-хор "Кафедра" з г.Казані пад кіраўніцтвам сп. Юсупава, які і атрымаў "Гран-пры". Дыплом І ступені атрымалі Гродзенская харавая капэла, Баранавіцкі хор "Рамэо і Джульета", камерны хор Менскай царквы Вобраза Божай Маці "Усіх смуткуючых Радасць", харавая студыя "Сяброўства" з Цверы і вакалістка Гаяне Хосцян з Львова.

На закрыцці і пад час прэс-канферэнцыі шмат хто і з журы, і з удзельнікаў выказваў здзіўленне слабай рэкламай фестываля. У той час як "Славянскі Базар" трапіў пад прыцэл шматлікіх расійскіх і беларускіх СМІ, да "Магутнага Божа" было звернута значна менш увагі прэсы да эфіру. Зразумела, што прафесійны ўзровень фестывалю год ад году расце, але без прапаганды, рэкламы і істотнай фінансавай падтрымкі цяжка чакаць ад яго лепшага. Дарэчы, шмат хто з удзельнікаў фестывалю выказваў занепакоенасць, што пераход справы арганізацыі фестывалю ад энтузіястаў да чыноўнікаў можа сапраўды адмоўна паўплываць на наступныя фестывалі. Тым болей, што да гэтага часу яго галоўным спонсарам выступаў Фонд Сораса.

Тым не меней, V міжнародны фестываль павінен адбыцца. Так лічаць і госці, і ўдзельнікі фестывалю, асабліва тыя, хто стаяў ля яго вытокаў у 1993 годзе. Яны чакаюць, што знoўку над беларускай зямлёй загучаць чароўныя мелодыі "Магутнага Божа".

**Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ, г.Магілёў.**

***Ад рэдакцыі.*** *Як стала вядома, нават некаторыя члены журы, у прыватнасці Віктар Скарабагатаў, лічаць, што рок-музыкаў не падпусцілі да фестывалю магчыма з-за Касі Камоцкай,— бо раптам тая заспявала б сваю "крамольную" песню "Прэзідэнт, ідзі дамоў".*

...Спачатку пра сам помнік, які тут, у вёсцы Чарнагубава, на Капыльшчыне, паўстаў з ініцыятывы і пры асабістым удзеле земляка вяскоўцаў — сябра Грамады Станіслава Лісоўскага. Спадар Станіслаў — унук рэпрэсаванага шляхціча Яся Крэпскага. Чатыры гады нашчадак слаўнага роду, сярод якога былі і добрыя воі Вялікага Княства ды Рэчы Паспалітай, і працавітыя, граматныя гаспадары-хлебаробы, стараўся: шукаў сяброў-падзвіжнікаў, шукаў мастакоў, скульптараў ды архітэктараў, шукаў зычлівых палітыкаў-аднадумцаў, шукаў грошы. І вось вынік. Дзякуючы землякам, што падтрымалі нялёгка ашчаджанымі "зайцамі", дзякуючы мастаку Міколу Купаву, разьбяру Бандалевічу, скульптару Алесю Шатэрніку, архітэктару Таццяне Пешкавай. Ды і дэпутатка-камуністка Алена Скрыган памагла "прабіць" дакументы і самую ідэю помніка праз замшэлыя бюракратычныя муры! Помніка тутэйшым гаспадарлівым сялянам у жніўні 1937 года літаральна за тыдзень чэкісты вывезлі з Чарнагубава. Большую частку невядома дзе знішчылі, меншую — выслалі за далёкі свет.

Пляцоўка, дзе месціцца помнік, абнесена таксама чорнага колеру якарным ланцугом. Тут некалі стаяла хата сям'і Свінкоўскіх, якіх нкусаўцы забралі ўсіх разам — і старых, і малых. Пра лёс сям'і ніхто з вяскоўцаў нічога не ведае — ніводзін з Свінкоўскіх у Чарнагубава не вярнуўся.

Час не пашкадаваў ні хаты, ні гаспадарчых пабудоў. Але землякі тут, на "прагале" ў акуратнай забудове вуліцы, не сяліліся — усё чакалі вяртання колішніх гаспадароў. А цяпер, нарэшце, паставілі тут вось гэты помнік. **Падобныя помнікі можна, паводле Станіслава Лісоўскага, паставіць яшчэ ў 192 вёсках рэгіёна** — уздоўж былой польска-савецкай мяжы. Сотні сялянаў і шляхцічаў у 1937 годзе былі расстраляны бальшавікамі без суда і следства.

паважалі выдатныя сумленнейшыя людзі Беларусі. А вось пад чырвоным сцягам бальшавікі расстрэльвалі невінаватых людзей.

З гэтай жа нагоды даволі эмацыйна выказалася жыхарка г.Слоніма, рэпрэсаваная пасля апошняй вайны ў падлеткавым узросце, Надзея Дземідовіч. Яе словы я запісаў на дыктафон:

— Ад нас адабралі наш сцяг, нашу "Пагоню". Але яны не адабралі ад нас душы, у якой ніколі не знойдзецца месца чырвонаму сцягу. Хаця б таму, што, калі гэты крывавы сімвал запанаваў над Заходняй Беларуссю, майго ні ў чым непавіннага бацьку кінулі ў астрог...

Праўда, на абарону чырвонага сцяга паўстаў яшчэ адзін прадстаўнік улады, намеснік старшыні Капыльскага райвыканкама, член ПКБ Дзмітрый Янчык. Дзіўна было ад яго, тутэйшага чалавека, нашчадка рэпрэсаваных родзічаў, каля гэткага помніка чуць вось такое:

— Але разам з тым, я хацеў

# Чарнагубаўцы, якія пераадолелі Страх...



і шляхце, якія сталі ахвярамі бальшавіцка-сталінскага тэрору.

Дзякуючы прадстаўніцы "Мартыралогу Беларусі", дачцэ знішчанага бальшавікамі паэта, народафронтаўцы Маі Кляшторнай ды сябру Згуртавання беларускай шляхты Леаніду Акаловічу, дзякуючы іншым добрым людзям, якія дапамаглі чым маглі.

Шмат хто з гэтых людзей, землякі Станіслава Лісоўскага віншавалі яго, абдымалі са слязьмі на вачах. Вось на такіх людзях-патрыётах, якія шануюць сваіх продкаў, а разам з імі — Бацькаўшчыну, і трымаецца народ беларускі. Наўкола помніка гучала родная мова. Нярэдка пакрытыя заўчаснымі маршчынкамі ад нялёгкіх будняў твары зіхацелі ўсмешкамі. І была на іх годнасць і мужнасць. Нагода для вялікага пачэснага сходу ў Чарнагубаве мелася, канешне, журботная — ушанаванне памяці ахвяраў. Але нават самы аскетычны вернік, напэўна, дараваў бы гэтай грамадзе радасныя ўсмешкі — адкрывалася месца святой памяці пра землякоў. Помнік зроблены, дарэчы, вельмі арыгінальны. Нічога падобнага нідзе бачыць мне не даводзілася, хоць аўтар гэтых радкоў пабачыў шмат іх у беларускіх, украінскіх, расійскіх і чувашскіх гарадах, мястэчках, сёлах, вёсачках і пасёлках.

Убетанаваныя ў зямлю тры дубовыя ствалы. Яны, падобна як каплічка, прыкрыты невялічкай стрэшкай, а над ёю — пазалочаны крыж. На сярэднім ствале пад страхой умацаваная скульптурная выява Божай Маці. Унізе, пад дубамі, некалькі чорных дошак з высечанымі на іх імёнамі 67 тутэйшых сялянаў і шляхціцаў. Іх

Вось чаму на адной з мемарыяльных дошак чарнагубаўскага помніка высечаны верш Сяргея Грахоўскага, былога вязня ГУЛАГа, верш, у якім паэт заклікае людства беларускае да пільнасці, каб не паўтарыўся гвалт, каб не паўтарылася праліццё нявіннай крыві.

Але Страх яшчэ жыве ў сённяшнім грамадстве. Станіслаў Лісоўскі распавёў, што нават самыя прагрэсіўныя, нацыянальна свядомыя прадпрымальнікі, калі даведваліся, дзеля якой мэты ён просіць у іх грошай, — адмаўляліся. Казалі: прасі на што іншае, але не на такі помнік — баімся!

І ў такой боязі ёсць падставы. Здавалася б, імпрэза, прысвечаная адкрыццю помніка ахвярам палітычных рэпрэсій, — не месца прымусу і гвалту. Нават — намёку на гэта. Ды вось жа здарылася. Калі прадстаўніца "Мартыралогу Беларусі", дачка рэпрэсаванага ў 30-я гады беларускага паэта Мая Кляшторная пачала разгортваць нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг і рыхтаваць да імпрэзы іншыя сімвалы, да жанчыны падышоў прадстаўнік улады — старшыня Цімкавіцкага сельвыканкама Віктар Колас і катэгарычна забараніў разгортваць беларускі сцяг.

Ды як бы там ні было, але грамада не праглынула моўчкі гэтую крыўду. Усё ж на вуліцы свяціла ліпеньскае сонца 1996 года. Таму ў прамовах выступоўцаў і з'явілася тэма дзяржаўнай сімволікі.

Ужо знаёмы чытачу Станіслаў Лісоўскі заявіў: ён асабіста жыве пад бел-чырвона-белым сцягам, які абавязкова вернецца на сваё законнае месца ў атрыбутыцы беларускай дзяржаўнасці. Бел-чырвона-белы сцяг, сказаў ён, бы вас папрасіць не фарбаваць у чорны колер усё тое, што было да сённяшняга дня... Мы ж, напэўна, помнім, што зрабілі немцы пад час вайны. І спаленыя вёскі — такіх тут шэсць. Дзве наогул не адрадзіліся з попелу. Пад бел-чырвона-белым сцягам таксама розныя нядобрыя справы рабіліся. У паліцаяў такімі былі, між іншым, павязкі. А пад чырвоным сцягам нашыя бацькі бралі Берлін!

Доказы не лепшыя. У тым ліку пра павязкі. Як вядома, у гітлераўскіх штурмавікоў яны былі чырвоныя з чорнай свастыкай. У паліцаяў — белыя з чорнымі літарамі.

Дзіўна было чуць і расійскую мову спадара Дзмітрыя, аздобленую "тутэйшым" акцэнтам сярод выдатнай беларускай гаворкі, якой карысталіся чарнагубаўцы. Вызначыўся і тут.

Чарнагубаўцы, між іншым, выказалі пратэст з той нагоды, што капыльскія ўлады да гэтага часу не вяртаюць ім, у абсалютнай большасці сваёй каталіцкім вернікам, некалі "канфіскаваны" касцёл, які месціцца ў райцэнтры.

Але цяпер у ягоных сценах... рэстаран.

Па-рознаму можна расцэньваць тую палітычна-канфесійную спрэчку, якая нечакана разгарнулася на жалобнай імпрэзе. Ды факт застаецца: Страх яшчэ дзе-нідзе гнездзіцца ў грамадстве, але яго ўсё ж пераадольваюць у сабе нават вяскоўцы, якія памятаюць сваіх землякоў, знішчаных "жалезнымі слугамі пралетарыяту".

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

**На здымку:** в.Чарнагубава. Ініцыятары помніка ахвярам палітрэпрэсій.

**Фота Леаніда СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКАГА.**

*Згадкі*

# "Сяброўка Гася"

Ужо шмат іменаў працаўнікоў на ніве беларускага школьніцтва вернута з нябыту. А ў міжваеннай Заходняй Беларусі іх былі тысячы, адданых свайму народу й Бацькаўшчыне патрыётаў. Сёння наш расказ пра актывістку ТБШ А.Невядомскую.

Агата Невядомская нарадзілася на Піншчыне, мела адукацыю настаўніцы. У 1925-27 гг. яна была актывісткай сялянска-работніцкае грамады. Калі ў 1929 годзе на Піншчыне арганізавалася Таварыства беларускае школы (ТБШ), Агату Невядомскую абралі старшынёю павятовае ўправы Таварыства. Нягледзячы на перашкоды польскіх уладаў, мясцовае ТБШ разгарнула вельмі актыўную дзейнасць. Яго гурткі неўзабаве арганізаваліся на Лунінеччыне, Століншчыне, Драгічыншчыне і Камень-Кашыршчыне (цяпер уваходзіць у склад Украіны). У вёсках была арганізаваная акцыя складання сялянамі дэкларацыяў з патрабаваннем да польскіх уладаў адкрыцця беларускіх школаў. У Пінску арганізаваўся моцны гурток ТБШ, які складаўся амаль цалкам з жанчын. Тут пачаў дзейнічаць беларускі гурток і арганізоўваўся хор.

У Пінску была зроблена спроба арганізацыі беларускай гімназіі. Якраз перад гэтым палякі зачынілі тут расійскую гімназію. Былы слуцкі паўстанец Ключановіч згуртаваў беспрацоўных настаўнікаў, якія меліся працаваць у беларускай гімназіі. Польскія ўлады не далі дазволу на адкрыццё гімназіі, а Ключановіча выселілі ў Гданьск. У справе арганізацыі беларускага школьніцтва ў Пінску актыўны ўдзел прымала і А.Невядомская ("сяброўка Гася").

Неаднаразова яе арыштоўвала польская паліцыя. У пастарунку Невядомскую збівалі, запалохвалі, яе спрабавалі скампраметаваць. Але зламаць "Гасю" не ўдалося. Яна працягвала сваю дзейнасць, выкарыстоўваючы самыя нетрадыцыйныя метады. Быў выпадак, калі яна пераапраналася пад старую вясковую жанчыну, пранікала ў пагранічную зону, як Давід-Гарадок і яго ваколіцы, куды без спецыяльнага пропуску доступ быў забаронены.

Агата Невядомская была арганізатаркаю антыпольскай дэманстрацыі ў Пінску 1-га траўня 1930 года, калі ў горад прыйшлі тысячы сялян, перад якімі меліся выступіць беларускія паслы польскага сейма. Паліцыя справакавала сутычкі з дэманстрантамі і разагнала мітынг. Былі арыштаваныя сотні сялянаў, паранены пасол Грэцкі.

Пасля гэтага польскія ўлады павялі наступ на ўсе беларускія арганізацыі на Піншчыне. Сяброў ТБШ запалохвалі і тэрарызавалі. Як вынік гэтага, распаліся хор і драматычны гурток. Былі ліквідаваныя гурткі Таварыства ў Давід-Гарадку, Лунінцу, Ганцавічах, Высоцку, Драгічыне, Янаве, Марочыне. У Любяшове (цяпер у складзе Украіны) быў закрыты аддзел Беларускага банку і беларускія кааператывы...

Дзейнасць беларускіх патрыётаў у Пінску звузілася да распаўсюджвання толькі антыпольскіх улётак. Аднак у рукі польскай паліцыі трапіў юнак — вучань Віленскай беларускай гімназіі, які прывозіў улёткі ў Пінск. Збіты, ён паведаміў, што вёз улёткі Агаце Невядомскай... Яе арыштоўваюць. Пінскі суд прысудзіў Невядомскую і яе мужа на два гады кожнага. Выйшаўшы з турмы, Агата Невядомская была пад сталым наглядам паліцыі.

Калі ў 1939 годзе Германія напала на Польшчу, заходнебеларускае Палессе было ахоплена антыпольскім паўстанцкім рухам. Паўстанцы планавалі абвясціць незалежную Заходнебеларускую Рэспубліку са сталіцай ў Пінску. Агата Невядомская павінна была стаць міністрам культуры ЗБР, але... 17 верасня ў Заходнюю Беларусь уступілі савецкія танкі. Пачаў шалець тэрор НКВД.

Сяргей Хмара пісаў у некралогу ўжо на эміграцыі: "Гася забіваецца ў ціхі куток і ўжо не выяўляецца аж да свае смерці, да апошняй хвіліны мроячы аб той Беларусі, за якую мы змагаліся ў падпольскія часы і якой не дано было нам пабачыць..."

Пра падсавецкае жыццё А.Невядомскай, практычна, няма ніякай інфармацыі. Але ўпэўнены, што на Піншчыне ёсць людзі, якія могуць аднавіць гэтыя прабелы ў біяграфіі Невядомскай.

Памерла Агата Невядомская ў 1974 годзе на Піншчыне.

**Сяргей ЁРШ.**

***З нагоды***

# Змова? Супраць каго?

25 ліпеня старшыня Камітэта бяспекі пры Дзяржаўнай думе Расіі Віктар Ілюхін выступіў на прэс-канферэнцыі ў Думе з сенсацыйнай заяваю. Ён заявіў, што ведае пра існаванне змовы спецыяльных службаў Захаду супраць Беларусі. Вось яго словы:

— Стала вядома, што група вышэйшых афіцэраў CIA ў складзе 18-21 асобаў на чале з палкоўнікам Полам Гейбартам з 10 чэрвеня 1996 года знаходзіцца ў Варшаве дзеля падрыхтоўкі спецыяльных падрыўных аперацыяў у Беларусі.

Аперацыя, паводле словаў Ілюхіна, будзе мець выгляд стварэння ў Менску, Оршы, Віцебску, Магілёве страйкавых цэнтраў накшталт польскай "Салідарнасці", якія 1-9 жніўня гэтага года маюць узняць першасную хвалю палітычных і эканамічных страйкаў на буйных эканамічных цэнтрах Беларусі. У гэты ж час, заявіў Ілюхін, Беларускі Народны Фронт у Менску арганізуе мітынгі з удзелам 10-30 тысячаў асобаў, сярод якіх будуць не менш 200 баевікоў УНА-УНСА, дзеля арганізацыі вулічнага супраціву.

— Пад час акцыі вулічнага супраціву (я спецыяльна звяртаю на гэта ўвагу) плануецца забойства аднаго ці двух лідэраў нацыянальнага руху Беларусі, а дакладней Беларускага Народнага Фронту. Арганізатарам гэтых злачынстваў, гэтых забойстваў у друку пасля будзе абвешчаны Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, паведаміў расійскі парламентарый. На ягоную думку, апафеозам гэтых падзеяў мае стаць пастаноўка ў Вярхоўным Савеце Беларусі пытання пра імпічмент Беларускага прэзідэнта.

У сваім інтэрв'ю BBC Ілюхін сказаў:

— Я — сапраўды старшыня Камітэта бяспекі. Я маю дачыненне да нашых спецслужбаў. Я маю нейкае дачыненне і да цяпер дзеючых выведнікаў, і да работнікаў дыпламатычных прадстаўніцтваў, да супрацоўнікаў наогул дыпламатычных місіяў як замежою, так і тут (у Расіі. — "Н.С.")

Але іншыя дэпутаты расійскай Думы скептычна паставіліся да заявы свайго калегі-камуніста. Так, дэпутат Сяргей Юшанкоў папракнуў фракцыю камуністычнай партыі ў тым, што яна ніколі не падтрымлівала разгляду пытання аб парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. "Калі мы ставім гэтае пытанне ў дзяржаўнай Думе, дык камуністы адмоўчваюцца і не заўважаюць гэтых фактаў у Беларусі і ахвотна падыгрываюць Лукашэнку ў тым, што ўсё гэта нібыта арганізавана заходнімі спецслужбамі," — сказаў ён.

Рычард Обарн, прэс-сакратар CIA, у сваім інтэрв'ю "Радыё Свабода" заявіў:

— Я апытаў сваіх калегаў, яны лічаць гэтыя меркаванні вартымі смеху да такой ступені, што я магу зрабіць выключэнне з правілаў і сказаць: сама думка аб тым, што CIA магло ўдзельнічаць у падобнай змове — адназначная лухта, гэта проста смешна. Звычайна мы не каменціруем нашыя аперацыі, але гэтыя абвінавачванні настолькі выходзяць за межы розуму, што я вырашыў зрабіць каментар.

У гэтым каментары Обарн паведаміў: не існуе чалавека ў чыне палкоўніка, які завецца Пол Гейбарт.

Калі прадстаўніка CIA прымусіла, насуперак звычаю, выступіць з заявай абсурднасць абвінавачванняў, што прагучалі з Масквы, дык генерал у адстаўцы Уільям Одам, былы дырэктар Агенцтва нацыянальнай бяспекі Злучаных Штатаў, убачыў у заяве Ілюхіна пачатак будучай правакацыі.

— Гэтаму бессэнсоўнаму, неверагоднаму меркаванню я магу знайсці толькі два тлумачэнні. Альбо старшыня думскага камітэта крайне безадказны, альбо ён рыхтуе ўласную правакацыю ў расійскім парламенце, нагнятаючы буру, каб рэанімаваць ідэю вяртання Беларусі пад кантроль Расіі, — сказаў генерал.

**Паводле паведамленняў BBC і "Радыё Свабода" падрыхтаваў У.П.**

# Веруем

**Да 2000-годдзя хрысціянства**

## Арыянства

Адной з самых значных постацяў у гісторыі хрысціянства ў IV ст. з'яўляецца Арый, які намагаўся даць простыя тлумачэнні існаванню Божага Сына, але з цягам часу яго дзейнасць прывяла да ерасі, якая выклікала ўнутраны раскол у Царкве.

Арый нарадзіўся ў Лівіі і працаваў святаром у Александрыі, быў добра адукаваны, здольны да дыялектыкі і вёў аскетычны лад жыцця. Ён сцвярджаў, што Бог сам па сабе адзіны, не створаны і не народжаны, і адмятаў погляды іншых тэолагаў на розніцу паміж стварэннем і нараджэннем. Дыскусія вакол Хрыста — Божага Сына цягнулася ў Александрыі досыць даўно. Арый працягнуў тагачасны субардыцыянізм, пашырыў яго і ўмацаваў філасофскай думкай Платона ў біблійнай інтэрпрэтацыі. З 318 г. свае погляды Арый пачаў выказваць публічна ў гаміліях (казаннях). Апрача прыхільнікаў, знайшліся і пераканаўчыя праціўнікі арыянскай тэорыі. У 320 г. у Александрыі адбыўся сінод, у якім узялі ўдзел каля 100 егіпецкіх і лівійскіх епіскапаў. Сінод асудзіў навуку Арыя як памылковую, а яго самога і двух епіскапаў выключылі з царкоўнай супольнасці. Арый заручыўся падтрымкай некаторых лівійскіх епіскапаў і надалей працягваў сваю дзейнасць. Епіскап Эўзэбій, любімец цэзара і прыхільнік Арыя, у той час заняў катэдру ў Нікадэміі і запрасіў туды Арыя, які напісаў там сваю галоўную працу — "Вячэра". Скандал вакол Арыя набіраў розгалас, і епіскап Александрыі скіраваў энцыкліку да епіскапаў Усходу з заклікам выкрываць памылковыя погляды арыянаў.

Цэзар Канстанцін хацеў адзінства ў Царкве і, унікаючы ў сэнс тэалагічных спрэчак, параіў Арыю і епіскапу Аляксандру паяднацца. Каб вырашыць усе спрэчкі, было прапанавана ў 325 г. склікаць Сабор у Нікеі. На Сабор з'ехаліся каля 300 епіскапаў з розных правінцый імперыі. Упершыню ў гісторыі Царквы сабралася такая вялікая колькасць ерархаў.

У хрысталагічнай дыскусіі бралі ўдзел епіскапы Аляксандр, Эўстацій і Маркел. Арыя падтрымлівалі Эўзэбій з Нікадэміі і Эўзэбій з Цэзарэі, якія і выступілі з прапановай прыняць арыянскі Сімвал веры.

Нікейскае вызнанне веры было сфармулявана не паводле прапановы Арыя, а пасля доўгіх дыскусій, і гэты сімвал даваў найбольш дакладнае акрэсленне Боства Ісуса Хрыста. Арыянская навука ўдзельнікамі Сабору была прызнана памылковай і ерэтычнай.

Лёс Арыя быў вырашаны цэзарам, і ён адправіў Арыя ў Ілірыю на выгнанне. Восенню 325 г. на выгнанне былі адпраўлены Эўзэбій з Нікадэміі і Тэогніс з Нікеі, калі заявілі цэзару пра сваю нязгоду з нікейскім сімвалам веры. Аднак у 328 г. цэзар Канстанцін неспадзявана вярнуў іх з высылкі і аддаў ім дзве епіскапскія катэдры. Дзейнасць Эўзэбія была накіравана на рэабілітацыю Арыя, чаго ён і дамогся. У 335 г. Арый быў рэабілітаваны і павінен быў быць урачыста прыняты цэзарам у Канстанцінопалі, але раптоўна памёр напярэдадні выезду ў сталіцу.

Пасля смерці Арыя надалей існавала яго памылковая навука і нават паўстала арыянская царква, створаная яго прыхільнікамі. Яна мела тры галіны, найбольш скрайняя з іх абвяшчала, што Божы Сын абсалютна розніцца да Айца. Арыянам удалося на пэўны час перахапіць ініцыятыву і схіліць на свой бок цэзара. У барацьбе цэзар і арыяне карысталіся аргументам міру і еднасці ў Царкве, хаця на самой справе яшчэ больш паглыблялі раскол.

Было праведзена два сіноды ў Сардыцы ў 342 г. і ў Мілане ў 355 г., якія прайшлі пад поўным кантролем і прэсінгам цэзара. Тыя з епіскапаў, хто быў не згодны з ерэтычнай навукай, адпраўляліся на выгнанне.

Аднак трыумф арыянства быў уяўным. Галійскія епіскапы ў 360 г. на сінодзе ў Парыжы аднавілі вызнанне нікейскага сімвала веры. У Александрыі пасля смерці цэзара Канстанцыя епіскапскі пасад заняў Афанасій, які выступіў супраць арыянства, за еднасць веры. Досыць цяжкая сітуацыя была ў Анцыохіі, дзе мясцовая Царква дзякуючы арыянству раскалолася на пяць груповак. У наступныя дзесяцігоддзі пачаўся занядад арыянскай навукі. Прыхільнікі нікейскага сімвала веры паступова вярталі страчаныя пазіцыі на тэрыторыі ўсёй імперыі. Арыянізм жа распаўся на пяць асобных тэалагічных напрамкаў і канчаткова знік пасля Канстанцінопальскага Сабору ў 381 г.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**



Святыя мошчы нашай вялікай старажытнай асветніцы Ефрасінні Полацкай перавозіліся ў 1910 годзе па Дняпры шляхам Кіеў--Ворша--Полацак. Тады ў Рэчыцы зрабілі прыпынак, на месцы якога потым была збудаваная царква Ефрасінні Полацкай. Цікава,што ў часе асвя-чэння храма (1912) прынесеную дзеля хрышчэння дзяўчынку назвалі Ефрасінняй.

На жаль, у 30-я гады царкву разбурылі. Але,ужо дарослая,Ефрасіння Аўсяннікава здолела ўратаваць царкоўныя абразы. Доўгія гады яна іх захоўвала з надзеяй, што калісь яны вернуцца ў адноўлены храм. Сапраўды, праз 60 гадоў пасля зруйнавання царкву Ефрасінні Полацкай збудавалі нанова. Цяпер яна стаіць непадалёк ад ранейшага месца. Але адбылося крыўднае здарэнне. Будаўніцтва новага храма ўжо канчалася, ды зладзеі скралі з дому Аўсяннікавай абразы. Захаваліся некаторыя царкоўныя рэчы, якія потым яна перадала царкве.

На здымках: Ефрасіння Аўсяннікава ля новай царквы Ефрасінні Полацкай у в.Азершчына; на месцы часовага прыпынку святыні па дарозе ў Полацак у Рэчыцы адбудаваны велічны помнік-капліца Ефрасінні Полацкай.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА БелТА.**



## Рэлігійная хроніка

13 ліпеня ў Магілёве адбылася ўрачыстая кансэкрацыя адноўленай катэдры Унебаўзяцця Дзевы Марыі і св. Станіслава. У ўрачыстасці бралі ўдзел некалькі дзесяткаў святароў з Беларусі і Расіі.

Св. імшу па-беларуску адправіў мітрапаліт менска-магілёўскі кардынал Казімір Свёнтак. У сваім казанні кардынал падкрэсліў, што важнейшым для каталіка застаецца пабудова ўнутранага Касцёла і ачышчэнне пасля дзесяцігоддзяў атэістычнага камунізму.

***

17 ліпеня ў Магілёве закончыўся IV фестываль духоўнай музыкі "Магутны Божа". Упершыню ў яго падрыхтоўцы ўзялі ўдзел гарадскія ўлады, а на адкрыцці прысутнічаў праваслаўны епіскап Максім. Гэтым разам на фестываль прыехалі хары і выканаўцы з Украіны, Расіі, Летувы, Вялікабрытаніі і ЗША.

Пробашч катэдры св. Станіслава кс. Уладзіслаў Блін выказаў жаль, што ў сёлетнім фестывалі не ўдзельнічалі выканаўцы з Польшчы.На яго думку, на гэта рашэнне магло паўплываць нядаўняе выдаленне беларускімі ўладамі кіраўніка "Салідарнасці" Мар'яна Кшаклеўскага.

***

Усё больш мусульманскіх універсітэтаў пачынае супрацоўнічаць з падобнымі хрысціянскімі вучэльнямі. Як сцвярджае іспанскі каталіцкі часопіс "Эклезія", акрамя заключаных дамоў паміж ісламскім універсітэтам Зітуна ў Тунісе, Папскім Інстытутам ісламістыкі і Грэгарыянскім універсітэтам завязаліся кантакты паміж Факультэтам тэалогіі ў Анкары з каталіцкімі універсітэтамі.

Шанаванне правоў усіх этнічных меншасцяў павінна быць у Босніі-Герцагавіне абавязковым, заявіў арцыбіскуп Сараева кардынал Вінко Пулыч пад час сустрэчы з дэлегацыяй епіскапату Францыі. Кардынал указаў на небяспечную радыкалізацыю мусульманскіх палітычных сіл, ісламізацыю арміі і сфальшаванне гісторыі краіны.

***

Украінская Праваслаўная Царква Кіеўскага Патрыярхату рыхтуецца ўрачыста адзначыць 75-ю гадавіну аўтакефальнасці. Галоўныя ўрачыстасці пройдуць 14 кастрычніка ў дзень Пакрова Багародзіцы. Пад час святкавання плануецца правесці цыкл лекцый у Духоўнай Акадэміі ўкраінскай Царквы, прысвечаны жыццю і дзейнасці першага мітрапаліта УАПЦ Васіля Ліпкоўскага, у царкве Пакрова Багародзіцы будзе адкрыта памятная шыльда ў яго гонар.

***

"Я не веру, што мірны працэс у Паўночнай Ірландыі можна лічыць мёртвым",— кажа арцыбіскуп Брэндан Дэлі. Ерарх лічыць крызіс вельмі цяжкім, але не канчаткова замарожаным. Кардынал Дэлі звярнуўся да ірландскіх каталікоў, каб тыя не падпалі спакусе гвалту і помсты, але каб зразумелі палітычныя, рэлігійныя, культурныя довады пратэстантаў.

**Паводле КАІ.**

## Чорныя юдаісты

Іх шлях пачаўся каля трыццаці гадоў таму далёка ад "запаветнай зямлі" — у Чыкага,буйнейшым прамысловым цэнтры паўночнага захаду ЗША. Тады, у 60-я гады, Амерыку ахапіла хваля руху, які ўсчалі яе чорныя грамадзяне, змагаючыся за свае правы. Гэтыя людзі, адчуваючы ўласную няроўнасць, шукалі сваіх этнічных каранёў, сваёй гістарычнай радзімы і веры.Традыцыйнай канфесіяй белых быў пратэстантызм. Таму адна частка чорных амерыканцаў, адным з лідэраў якой быў Марцін Лютар Кінг, супрацьпаставіла ёй баптызм. Другая, якой кіравалі Мэлкам Х. ды іншыя, схілялася да іслама, які ў ЗША стаў верай чорных.

У канцы 60-х гадоў чорны работнік аднаго са сталеплавільных заводаў Чыкага Дэн Картар абвясціў, што ён і частка ягоных суайчыннікаў вядуць свой род з Бліжняга Усходу — ад даўнейшых жыхароў Палесціны, старажытных юдзеяў. Знайшліся людзі, што прынялі гэтую навуку, і Картар, як новы Майсей, павёў некалькі соцень людзей з амерыканскага палону праз афрыканскую Ліберыю ў зямлю запаветную — Ізраіль. Там на ўскраіне горада Гамон яны заснавалі селішча, якое вырасла і цяпер налічвае паўтары тысячы жыхароў. Яны жывуць у бетонных халупах, гавораць між сабой па-англійску, носяць яркія строі афрыканскага крою. Але, як і ў сапраўдных юдаістаў, галовы мужчын пакрытыя традыцыйнымі габрэйскімі ярмолкамі — кіпамі. Адзенне для ўсіх гэтых людзей, культура якіх з'яўляецца дзіўнай сумессю афраамерыканскай і юдзейскай, шыецца ў адзінай грамадскай майстэрні з тканіны, якая не ўтрымлівае штучных валокнаў — гэта забаронена. Чорныя юдзеі не ядуць ні мяса, ні малака — забаронена і гэта. У селішчы мноства дзяцей, бо іх лічаць знакам Божай ласкі, чым болей — тым лепш. Высокая нараджальнасць тлумачыцца і тым, што традыцыяй жыхароў калоніі ёсць палігамія — мужчына можа мець да сямі жонак. Гэта лічыцца выкананнем запавету прарока Эзры.

Жыццё чорных юдзеяў не такое ўжо лёгкае. Напачатку ўлады Ізраіля паставіліся да іх непрыхільна, не дазволіўшы застацца ў краіне, а рабінат не прызнаваў іх за нашчадкаў біблійных юдзеяў. Але з цягам часу пад сонцам Юдэі знайшла месца калі не іхняя вера, дык яны самі, некалькі гадоў таму, атрымаўшы, нарэшце, дазвол на жыхарства. Цяпер яны дамагаюцца пэўнага грамадзянства. "Бог Ізраіля,— кажа іх старшыня князь Габрыэль,— не пакідае сваіх дзяцей, нават чорных".

**Падрыхтаваў У.П.**

***Да 400-годдзя выдання "Граматыкі славенскай..."***

***Алена ЯСКЕВІЧ,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Лаўрэнцій Зізаній — паэт

Лаўрэнцій Зізаній быў вядомы сучаснікам і як здольны паэт, які пісаў у традыцыях сілабікі, характэрнай для тагачаснай польска-беларускай метрычнай сістэмы.

Многія пісьменнікі-палемісты Віленскага праваслаўнага брацтва, у іх ліку брат Лаўрэнція Зізанія, Стэфан, Мялет Сматрыцкі, манах Віталь, пісалі панегірычныя эпіграмы-прысвячэнні на гербы знакамітых магнатаў, мецэнатаў іх выданняў, патронаў праваслаўных асяродкаў у Княстве.

Творчасць Л.Зізанія-эпіграміста стаіць неяк паасобку ў гэтай традыцыі, бо яго мініяцюры замест звыклых для знаўцаў тагачаснай барочнай паэзіі панегірычных элементаў вылучаюцца моцным *дыдактычным характарам*. Дыдактызм паэтавых эпіграм абумоўлены прызначэннем мініяцюр; у лірычнай прасторы гэтых твораў толькі два тыпы герояў: настаўнік-дыдаскал (тыпограф) і вучні (маладзенцы), якія ўводзяцца ў цудадзейны храм ведаў. Моцны дыдактычны стрыжань надаецца "Епіграмме на Граматікоу" вельмі цэльным, мэтанакіраваным зачынам:

*Грамматіка письма всех*
*наоучает,*
*чтырма частми латве*
*оуразоумляет:*
*Орфографією і просодією,*
*синтаксисом и етімологією.*

Сімвалічна-праваобразная сістэма тропаў, характэрная для паэзіі *барока*, у Лаўрэнція Зізанія заменена, відаць, згодна пашыраным у Княстве і Кароне традыцыям антычнай метрычнай сістэмы, у прыватнасці *элегічнага двусцішша*, на двухрадковую страфу, звязаную сістэмай суадносных, лагічна акрэсленых параўнанняў:

*Которіи прагноут быти*
*досконали,*
*в писме и в словах абы не*
*партали.*
*Але изъвьстьно все познавали,*
*и чого ся оучат абы добре знали.*

Зазначым, што эпіграму ў жанравай сістэме літаратуры барочнай вызначаў моцны сатырычны элемент; гэта было абумоўлена ў нейкай ступені разнастайнасцю (макаранічнасцю, травесційнасцю) самой жанравай сістэмы, у якой спалучаліся дзве эпохі — Сярэднявечча і Асветніцтва. На думку даследнікаў, барочнай эстэтыцы ўласціва спалучэнне несувымяральных, дыяметральна процілеглых уяўленняў і рэчаў, у аснову яе пакладзены прынцып *тэорыі вастраслоўя* (acumen), тонкай іроніі над неадэкватнасцю з'яваў у жыцці, неадпаведнасцю рэаліяў у свеце. Таму і ў паэтычнай лабараторыі Лаўрэнція Зізанія параўнанне часам набывае рысы супастаўлення, неардынарнага, але ўсё ж лагічна дапушчальнага суаднясення рэчаў:

*А предреченьное ей опаство,*
*подаеть певное искоуство.*

Надзвычай развітая сістэма параўнанняў-супастаўленняў эстэтыкі барока абумовіла (нават у такім дыдактычным творы) прысутнасць *вобраза-сімвала*:

*Ключом бо есть отворяючи*
*всем оумъ,*
*къ познанію въ преправы*
*размоу.*

Выразны аптымізм асветніцтва, педагагічны вопыт дыдаскала, відаць, абумовілі аптымістычнае заканчэнне верша, яго вобразная прастора нібы размыкаецца ў жыцці, захапляе сваёй упэўненасцю і энергіяй чытача:

*По которо власне іакъ по*
*всходь подеть,*
*кажды если хочет всех наоук*
*дойдет.*

***Вучымся***

***Вікторыя ЛЯШУК,***
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Для грамадства

Пасля разгляду стылёвых адметнасцяў (навуковых тэкстаў пра лён, звернемся да аналізу публіцыстычнага стылю, які яшчэ называюць газетна-публіцыстычным, публіцыстычна-прамоўніцкім, грамадска-публіцыстычным. У складзе ўсіх прыведзеных тэрмінаў ёсць слова **публіцыстычны**, якім перададзена грамадска-палітычная тэматыка напісаных у гэтым стылі твораў. Імкненне выклікаць цікаўнасць да сацыяльных і культурных праблем, звярнуць увагу на патрэбы асобы вызначаюць асноўныя асаблівасці гэтага стылю.

Публіцыстыка адлюстроўвае і фармуе грамадскую думку праз ацэначны (часта мастацкі) выклад важных падзей жыцця. Лагічнасць, перададзеная ў аўтарскіх меркаваннях, высновах, абагульненнях, характарыстыках, у гэтым стылі знітавана з эмацыйнасцю, якая ўвасабляе настрой, пачуцці, уяўленні, стаўленне да жыццёвых рэалій. Як слушна заўважае М.Я.Цікоцкі, "публіцыстыка аб'ядноўвае ў сабе прадметы навукі і мастацтва, а публіцыст у сваім вывучэнні рэчаіснасці выступае і як вучоны, і як мастак адначасова". У публіцыстычным стылі надзвычайную важнасць набываюць асабістая зацікаўленасць аўтара, яго ўменне апісваць і ацэньваць факты, звяртаць да культурна-гістарычных аналогій, рабіць важкія абагульненні, выбраць вартую ўвагі тэму.

Спецыфіка публіцыстычнай формы адлюстравання рэчаіснасці — спалучэнне разгорнутай доказнасці з эмацыйным выкладам і накіраванасцю на значную колькасць людзей — грамадства. Па гэтай прычыне мова ў публіцыстычным стылі павінна быць агульнапрынятай, змест — зразумелым, праблемным.

Разнастайнасць праяў грамадскага жыцця мае выяўленне ў пытаннях культуры, ідэалогіі, палітыкі, спорту, вытворчасці, для чаго публіцыстычны стыль выпрацаваў тэматычна ўпарадкаваны, багаты і разнастайны слоўнік. Як адзначае В.П.Красней, у матэрыялах гэтага стылю часта ўжываюцца пэўныя групы лексікі. Сярод іх — спецыфічныя, частаўжывальныя ў перыядычных выданнях словы (так званыя газетызмы): **допіс, аглядальнік, прэс-канферэнцыя, эксклюзіўнае інтэрв'ю** ды інш. Афарбоўку публіцыстычнасці маюць таксама частаўжывальныя словы грамадска значнага зместу: **айчына, брацтва, братэрства, роўнасць, свабода, патрыёт, генацыд, адраджэнне**. Функцыянальна-стылістычную суаднесенасць набываюць некаторыя словы ў вобразна-пераносным значэнні — праз частае іх выкарыстанне: **вахта** (памяці), **мікраклімат** (калектыву), **духоўны Чарнобыль**.

Уласціва публіцыстычнаму стылю і грамадска-палітычная тэрміналогія, выкарыстаная з ацэначнай мэтай: **рэформа, рэферэндум, мітынг, электарат**. Эмацыйнасць публіцыстычнаму выкладу надае, як падкрэслівае У.Д.Еўтухоў, ацэначная лексіка, пра стылёвую адметнасць якой сведчаць сінанімічныя рады: **візіт — паездка — вояж; форум — мітынг — зборышча — шабаш; суд — судзілішча — судовая расправа**.

Публіцыстычны стыль вызначаецца інтанацыйным багаццем, што ўвасоблена ў мітынговай, агітацыйнай, урачыстай, узнёслай, размоўна-бытавой, зніжанай формах выкладу грамадскіх праблем. Нейтральная інтанацыя і бязвобразнасць характэрныя хіба толькі падачы аператыўнай інфармацыі — грамадска значнай па сваім змесце і навізне.

У межах публіцыстычнага стылю вылучаюць падстылі, звязаныя з адрозненнямі ў форме і мэце паведамлення, яго праблемнасці, значнасці, сітуацыі маўлення,— газетна-публіцыстычны, агітацыйны, масава-палітычны.

У наступных размовах мы звернемся да аналізу публіцыстычных тэкстаў розных падстыляў і жанраў.

***Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"***

***Валянціна ВЫХОТА***

# Коласавы зернеткі

(Працяг.)

*І любяць дзеда Юрку ўнукі,*
*Яны цалуюць яму рукі,*
*А дзед у плечы іх цалуе*
*І абаранкам* ***патрактуе****.*

Згадаем яшчэ, як Яхіміха прыязджае ў госці ў Міхалаву сям'ю:

*— А дзе ж мая дачкахрышчона?*
*..............................*
*Гасцінцам дзеўчыну* ***трактуе****,*
*Яе і песціць і цалуе,*
*У вочкі ёй глядзіць прыветна.*

**Трактаваць** 2. Частаваць. // Абдорваць (ТСБМ). **Абдорваць** одаривать, одарять (БРС); одарить, одарять 1. (подарить) beschenken (РНС).

Калі дзед Юрка трактуе сваіх унукаў абаранкамі — частуе іх, то хросная трактуе сваю хрэсніцу гасцінцам, у якім, паводле нашых звычаяў, маглі быць не толькі ласункі, але і набор матэрыялу на сукенку ці што іншае. **Гасцінец**. Рэч, ласунак і пад., якія госць або блізкі даюць каму-н. як падарунак (ТБСМ). Таму ў гэтым урыўку слова *трактаваць* мае і значэнне 'дарыць', што не адзначана ў слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў. У наступным урыўку слова *трактаваць* можна прымаць як блізказначнае ці сінонім слова *абдарыць*:

*А Свіда рад быў, рад вядома:*
*Рублём Міхала ён* ***трактуе****,*
*Цыгарай хвацкаю частуе.*

Паўторым: у нашай мове, як бачым з "Новай зямлі", слова *трактаваць* мае тры значэнні: **частаваць, дарыць** (даваць падарунак) і **абдорваць** (узнагароджваць).

І ў нямецкай мове знаходзім гэтае слова са значэннем частаваць:

traktieren 2. veraltend jmdn. mit etw. (Auserlesenem) reichlich bewirten: er hat sie mit Wein, Torte, Kaffee und Kuchen traktiert (WDG); traktieren I угощать (GDRW).

Што да значэнняў "даваць падарунак" і "абдорваць (узнагароджваць)", то ў нямецкай ім адпавядае **beschenken** jmnd. etw. schenken: jmnd.. reichlich beschenken; reich beschenkt verlies er ihn (WDG).

Апроч таго, у нямецкай мове захавалася слова traktieren са значэннем, якое адпавядае нашаму "пачаставаць". Слоўнік сінонімаў Клышкі дае сінонім слову пачаставаць — выцяць. А ТСБМ дае пераноснае частаваць як размоўнае біць таго, хто лезе не ў сваё. У нямецкай мове — 1. traktieren jmnd. **schlecht behandeln**: er hat ihn mit dem Stock traktiert (WDG).

**Трактаваць**. Ням. traktieren. У XV ст. пазычана з лац. tractare у значэнні "абслужыць". Лац. tracto "частаваць".

**Культура мовы**

# Маладзечна ці Маладэчна?

усім нядаўна ў г.Маладзечне адбылося традыцыйнае Свята беларускай паэзіі і песні. Фэст уразіў раскошай сваёй шчырай святочнасці. Запала ў памяць таксама і іншае. Неаднаразова, калі песня выканаўцаў змянялася словамі іх шчырай падзякі гасцінным гаспадарам, з вуснаў маладых творцаў чулася: "Дзякуй, Мала**дэ**чна!.." або мала**дзе**чна..."

Паводле Слоўніка беларускай мовы пад рэдакцыяй М.В.Бірылы (Мн., 1987) слова **Маладзечна**, а таксама вытворнае ад яго **маладзечанскі** пішуцца і, адпаведна, вымаўляюцца з мяккім зычным гукам [**дз**]. Гэтак жа, як і іншыя лексемы, дзе мае месца правіла пераходу цвёрдага зычнага [**д**] у мяккі [**дз**]: мала**ды**, але мала**дзе**нькі, мала**дзі**к, мала**дзі**ца; ва**да** — ва**дзі**ца, ва**дзя**нік, ва**дзя**нец, ва**дзя**ны, ва**дзя**ністы; спа**да**ць — спа**дзі**на, спа**дзі**ста, спа**дзі**сты, спа**дзі**стасць і іншыя.

Пераход цвёрдага зычнага гука [**д**] у мяккае [**дз**], або дзеканне,— гэта адна з вызначальных асаблівасцяў беларускай мовы, як яе дыялектнай, так і літаратурнай разнавіднасцяў. Акрамя дзекання, беларускае маўленне характарызуе таксама чаргаванне зычных гукаў цвёрдага [**т**] і мяккага [**ц**], ці цеканне. Дзеканне і цеканне — фанетычныя з'явы пазіцыйнага характару, інакш кажучы, яны маюць месца толькі ў вызначаным становішчы. Чаргаванне зычных у гэтых парах адбываецца ў тым выпадку, калі цвёрдыя гукі [**д**] або [**ц**] стаяць перад галоснымі гукамі [**э**] або [**і**]. З дадзеным правілам знаёмяцца дзеці літаральна з першага класа. Тады чаму ў назве горада Маладзечна зычны [**д**] вымаўляецца між тым цвёрда?

Паводле вынікаў класіфікацыі дыялектных асаблівасцяў маўлення гэтая частка беларускамоўнага абшару — зазірніце ў кнігу "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак. Карты" (Мн., 1969) — уваходзіць у склад заходняй зоны беларускай мовы (карта № 80 і інш.). Адна з адметных фанетычных рысаў маўлення ў гэтай зоне: **цвёрдыя зычныя [д] і [т] перад галосным** [**э**] ў словах іншамоўнага паходжання: **дэ**по, **тэ**мпература, па**тэ**льня, **дэ**ка (саматканая коўдра), **дэ**нка (кухонная дошчачка) і інш. У становішчы перад галосным **э** цвёрда вымаўляюцца тут у пазычаннях не толькі гукі [**д**] і [**т**], але і іншыя зычныя, якія маюць парныя мяккія: пра**фэ**сар, сур**вэ**тка, **мэ**тра, **нэ**рвы, шкар**пэ**ткі, га**зэ**та, **зэ**даль. Ужыванне цвёрдых зычных гукаў пашыраецца іншы раз і на непазычаную лексіку: мяс**тэ**чка, **сэ**рца, **тэ**сць, **тэ**сцёва (цешча). Мае месца яно і ў геаграфічных назвах: **Зэ**льва, Скі**дэ**ль, **Сэ**рвеч, Мала**дэ**чна.

Як бачым, наяўнасць цвёрдага зычнага [**д**] у слове Маладзечна ёсць захаванне адной з адметных гукавых асаблівасцяў тутэйшага дыялектнага маўлення заходняй зоны беларускамоўнага абшару.

**Вераніка КУРЦОВА,**
**Інстытут мовазнаўства АН Беларусі.**

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

# Слоўнік сінонімаў

1. **ПОЎНАСЦЮ** (у поўным складзе, аб'ёме; нікога, нічога не выключаючы, не прапускаючы) *Сёння Павел чытаў верш поўнасцю, і стары не перапыняў яго* (С.Александровіч). *Перад жывёлаводамі стаіць задача так правесці зімоўку жывёлы, каб поўнасцю захаваць наяўнае пагалоўе, ні ў якім разе не дапусціць зніжэння прадукцыйнасці жывёлы* ("Звязда"), **ЦАЛКАМ** *Першы раз апавяданне чытаецца цалкам, а не па частках, як гэта робіцца пры чытанні дзелавых артыкулаў* ("Методыка беларускай мовы ў пачатковай школе"). *Маёнтак захаваўся цалкам, і дом, і паркі, і сады, і ўся будоўля* (Чорны).

2 **ПОЎНАСЦЮ** (ва ўстаноўленых, належных патрэбных памерах — аддаць, заплаціць, атрымаць і пад.) *Ліквідаваць грашовую запазычанасць поўнасцю*, **ЦАЛКАМ** *Рыгор зарабляў да трыццаці рублёў у лета; аддаваў грошы цалкам мацеры* (Гартны), **СПАЎНА** *Працуюць у добрага гаспадара, плацяць ім акуратна і спаўна* (Кавалёў). *Я гатоў бы спачатку пачаць, Каб спаўна ўсім даўгі вам аддаць* (Вітка).

3. **ПОЎНАСЦЮ** (у поўнай меры — аддавацца чаму-н., прысвячаць сябе чаму-н., ажыццяўляцца, задавальняць каго-н. і пад.) *Поўнасцю аддаваць сябе любімай справе. Феадалаў страдаўнасць задавальняла поўнасцю, гараджан — купецтва і рамесную масу вабілі не ўсе яе бакі* (Капыскі), **ЦАЛКАМ** *Але як ні хацеў Паходня аддацца сваёй асноўнай справе, прыходзілася час ад часу ўмешвацца і ў справы, якія непасрэдна як быццам не датычыліся яго* (Хадкевіч). *Новая пасада цалкам захапіла яго [Косцю]* (Карпюк), **БЕЗ АСТАТКУ** *Справе рэвалюцыі ён [К.Каліноўскі] прысвячае ўсё сваё жыццё без астатку* (Лушчыцкі). Вы зрабілі ўсё, што маглі, аддалі народу і радзіме ўсе свае сілы, без астатку (Дамашэвіч), **ДА АСТАТКУ** *Слава тым, хто загінуў за справу рабочага класа,хто жыццё сваё прынёс і аддаў да астатку на шчасце працоўнага народа* (Самуйлёнак), **ДА АПОШНЯГА** *З адвечнай спеўнай тугой, з перападамі і ўзлётамі, калі здаецца, што вось зараз чалавек увесь, да апошняга, выльецца ў песню, звінелі галасы* (Караткевіч), **НА (УСЕ) СТО ПРАЦЭНТАЎ** размоўнае, узмацняльнае *Ваш адказ задавальняе мяне на ўсе сто працэнтаў. Любімаму занятку ён аддаецца на сто працэнтаў*, **ДА КАНЦА** разм. *Аддаваць сябе да канца любімай працы. Я тваім адказам задаволены да канца.*

**Поўнасцю**. Адпаведнікамі бел. **поўнасцю** і яго сінонімаў з'яўляюцца шэраг англійскіх прыслоўяў з аднатыпнай марфалагічнай структурай: **fully**, **completely**, **entirely**, **totally**, **wholly**, **absolutely**, **utterly** (усяго 7). Як лёгка заўважыць, усіх іх аб'ядноўвае фінальны элемент — **ly**, спрадвечны суфікс англійскіх прыслоўяў. Паводле паходжання, асновы іх (акрамя fully, wholly, utterly) былі пазычаныя з французскай (complete, entire, total) і лацінскай (absolute) моў. Такім чынам, тут мы яшчэ раз сутыкаемся з яскравым прыкладам разнастайных крыніцаў, якія ўзбагачалі англійскую сінаніміку.

Да шэрагу названых вышэй сінонімаў варта дадаць яшчэ і спалучэнне **a hundred %**, якое, як і бел. *на (усе) 100%*, з'яўляецца размоўным выразам.

З пункту гледжання семантыкі сярод усіх гэтых англійскіх сінонімаў трэба вылучыць **utterly**, якое ўжываецца пераважна са словамі памылковы, немагчымы і да т.п.

**ПОЎНАЎЛАДДЗЕ** (поўная, неабмежаваная ўлада), **ПОЎНАЎЛАДНАСЦЬ**, **ПОЎНАЎЛАДСТВА**.

